Вераніка ПУСТАВІТ

# ЛЕКІ ДЛЯ ДУШЫ



***Вераніка Пуставіт нарадзілася 9 лютага 1994 года ў Мінску. Вучыцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Працуе спецыяльным карэспандэнтам у газеце «Звязда». Лаўрэат літаратурнага конкурсу Саюза пісьменнікаў Беларусі «Славянскі калейдаскоп» (2014), пераможца конкурсу «Ладошка» ў намінацыі «Лепшы сцэнар да сацыяльнага відэароліка» (2014).***

## АРЫТМІЯ

***— Мама, я напісала верш са складаным рытмам і назвала яго «Арытмія».***
***— Адразу бачна, што ты — дачка доктара.***

Нашаму з вамі ліставанню трыццаць два тыдні.
То бок праз месяц у нас павінна штосьці нарадзіцца.
Ужо абмеркавана пад дзясятак слушных фільмаў,
Плюс асаблівасць падпалескіх
спеўна-танцавальных традыцый.
Наскокам пракінулі адзін праз аднаго сотні песняў.
Вершаў чортаў тузін. Прозы стос вялікі, непад'ёмны.
У сацыяльных сетках, ведаеце, стала цесна,
І радуе ўжо значна больш экран заўжды цёмны.
Так душаць памінальныя сустрэчы раз на сорак дзён
З вамі. У дадатак — тэлефанаванні раз на дзесяць.
Я ўжо забылася, як гладзіце маіх валасоў лён,
Але штодзённа пішаце ў vk каторы месяц.
І вось я засынаю пад інтэрнэтнае «дабранач».
І коўдра абдымае, збірае з думак ямбы.
Калі б не цеплыня да вас, што грэе сэрца нанач,
Не друкаваць бы зраніцы: «Ну як вы?».

## ЧЫМ ЛЕЧЫЦЦА ДУША

Душа лечыцца не словамі.
Яны толькі тэрмінова,
Як анальгін,
Прыбіраюць боль
І вяртаюць яго,
Калі губляюцца
У закутках думак.
Душа лечыцца не стасункамі.
Знешняе не здольна
Забіць чарвяка,
Які з'ядае
Яблык душы чалавека

Знутры.
Душа лечыцца не помстай.
Гэтак мы самі
Капаем сабе яму
Да дна адзіноты і злосці,
Якую пасля не запоўніць
Урадлівай глебай.
Душа лечыцца ўчынкамі,
Малітвай зранку і ўвечары
І асэнсаваным выбарам.
Душа лечыцца толькі тады,
Калі мы вырашаем
Зрабіць яе здаровай.
Назаўжды.

## УРБАНІСТЫЧНАЕ

Бам! Першая.
Бам-бам! Пайшоў.
Завітайма на новае шоу!
Хто з вуліцы не сышоў — выбачай
Ды хутчэй адкрывай парасон.
…І тут жа раптоўна —
Скон
Для дажджу,
Што горад
Халодным напоем
У хвіліну адну супакоіў.

## МОЙРЫ

Шоўкам працяў
мае летуценні
час.
Ножыкам чырк —
і няма больш
танюткай карціны.
Клато саткала
жыццё мне
і вас.
Лахес аддала
у вершах мне
паланціны.
І толькі Атрапас
вам сшыла
дзяўчыну
па проймах —
мяне,
але з сэрцам чужым.
І вось я ўглядаюся
падсвядома
ў тканіну,
Дзе прадпісана
мне трэцяю быць
для дваіх,
Дзе я вас
ніяк
не пакіну.

## БЕЗДЗЕЯСЛОЎНА

Валошкі ў кубку.
Кошка на ложку.
Будзільнік а шостай.
Кіпень а сёмай.
Пірог да гарбаты.
А восьмай — дахаты.
А дзявятай — пабег.
З таполікаў снег.
Маміна ўсмешка.
Да лецішча сцежка.
Клубніцы арома…
Бездзеяслоўна
Я — дома.